# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 20 верасня 1994 года | № 100 (10800) | Цана 30 руб.


## УСЁ Ў ІМЯ ЧАЛАВЕКА, АЛЕ ПРАЗ РУБЕЛЬ

Такую формулу пабудовы цывілізаванай будучыні ў Беларусі вывеў для сябе 16 верасня Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пасля сустрэчы са старшынямі абласных, гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў. Некаторыя з іх папракнулі Прэзідэнта ў адсутнасці згуртаванай каманды, з-за чаго кіраўнік дзяржавы прымае і падпісвае ўказы ў імя інтарэсаў грамадзян, а Нацыянальны банк і Міністэрства фінансаў, забываючы аб людзях, распрацоўваюць свае дакументы толькі... на карысць рубля. У адказ Аляксандр Лукашэнка заўважыў, што без аб"яднання намаганняў па гэтых двух напрамках ніякія, нават самыя малыя, рэформы не ўдасца зрушыць з месца. А пачынаць іх трэба.

Адным з надзённых пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, удзельнікі нарады назвалі праблему ўдасканалення сістэмы мясцовага самакіравання. На думку старшыні Брэсцкага абласнога Савета Віктара Бурскага, такая сістэма павінна ствараць неабходныя ўмовы для творчай актыўнасці асобы. Структура мясцовага самакіравання павінна прапарцыянальна спалучаць у сабе як жорсткую вертыкальную цэнтралізацыю, так і самастойнасць на месцах. Такім чынам, Віктар Іванавіч падтрымаў прапанову Прэзідэнта, які сваім указам зможа назначаць кіраўнікоў раённай і гарадской выканаўчай улады, захаваўшы пры гэтым пасаду старшыні мясцовага Савета, што выбіраецца ўсімі грамадзянамі.

Хоць для абмеркавання ўдзельнікаў нарады было прапанавана шэсць (!) варыянтаў упарадкавання ўлады на месцах, большасць прамоўцаў сышлася на думцы, што найбольш прымальнай будзе прапанова Прэзідэнта. Праўда, думкі былі і іншыя. Так, старшыня Бялыніцкага раённага Савета Аляксандр Агееў перакананы, што раздзяленне ўлад на ўзроўні раёна можа паслужыць падставай для стварэння канфліктных сітуацый паміж кіраўнікамі раённага звяна. Гэтага можна пазбегнуць, калі абавязкі старшыні Савета і выканаўчага камітэта будзе выконваць адзін чалавек.

Для паўнаты не толькі правоў, але і абавязкаў прадстаўнікоў улады на месцах удзельнікі нарады прапанавалі перагледзець асобныя артыкулы ў заканадаўчых актах аб дзейнасці дэпутатаў і мясцовым самакіраванні, у прыватнасці, аб дэпутацкай недатыкальнасці. Паставіць усіх грамадзян рэспублікі ў роўныя ўмовы перад законам — неабходная ўмова для правядзення рэформ.

Удзельнікі нарады абмеркавалі таксама праблемы работы Саветаў дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў з пісьмамі грамадзян, цяжкасці з забеспячэннем прадпрыемстваў энерганосьбітамі і пагашэннем фінансавай запазычанасці за іх выкарыстанне, арганізацыі работы на месцах кантрольных органаў і павышэння эфектыўнасці іх дзейнасці.

Паказальна, што ўсе прамоўцы так бо інакш зводзілі праблемы правядзення рэформ на месцах да адсутнасці неабходных для гэтага фінансавых сродкаў і дэфіцыту мясцовых бюджэтаў.

На думку старшыні праўлення Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, які выступіў на нарадзе, гэтыя цяжкасці стануць вырашальнымі па меры "запуску прамысловых прадпрыемстваў і аднаўлення іх абаротнага капіталу". Зрабіць гэта валявым шляхам, паводле слоў галоўнага банкіра рэспублікі, немагчыма. Непрадуманае адміністрацыйнае ўмяшанне ранейшага ўрада ў цэнаўтварэнне нават у імя вышэйшай карысці "проста разбурыла эканоміку". Сёння патрабуецца разумнае спалучэнне рыначных пачынанняў з адміністрацыйнымі мерамі. Багданкевіч упэўнены: нармалізаваць фінансавую дзейнасць прадпрыемстваў магчыма за кошт іх уласных крыніц, дзякуючы рэгуляванню фондаў спажывання і накаплення. На аднаўленне абаротнага капіталу прадпрыемстваў будуць накіроўвацца адлічэнні ад уласнага прыбытку. На гэтыя мэты прапануецца накіраваць і частку сродкаў, атрыманых ад правядзення прыватызацыі.

Прэзідэнт у сваю чаргу запэўніў, што для забеспячэння працэсу рэформ ён мае намер павысіць фінансавую дысцыпліну і зрабіць больш жорсткім кантроль за яе захаваннем.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Мясцовая ўлада: дзень за днём

## Хлеб, каўбаса і гарэлка.

### Нярэдка толькі такія тавары можна ўбачыць у вясковых магазінах Барысаўскага раёна

**Няпроста працаваць у сённяшніх эканамічных умовах работнікам спажывецкай кааперацыі Барысаўскага раёна. Аднак ім удалося не дапусціць рэзкага зніжэння ўзроўню гандлёвага абслугоўвання вяскоўцаў. Так каротка ахарактарызаваў становішча спраў у райспажыўсаюзе намеснік старшыні райвыканкома М.І.Крыжаноўскі, выступаючы з дакладам на нядаўняй сесіі райсавета, дзе абмяркоўваліся стан работы па гандлёваму абслугоўванню, аказанню сацыяльных паслуг насельніцтву і меры па яе паляпшэнню.**

План васьмі месяцаў, адзначалася ў дакладзе, па рознічнаму тавараабароту райспажыўсаюзам выкананы на 104,6 працэнта. Рост да ўзроўню адпаведнага перыяду мінулага года больш як 13 разоў і пераўзышоў сярэднеабласны паказчык. Таварныя рэсурсы павялічваліся за кошт пашырэння аб'ёмаў нарыхтовак і вытворчасці тавараў народнага спажывання на кааператыўных прадпрыемствах. Іх доля дасягае трэцяй часткі агульнага аб'ёму тавараабароту. Прыкладна такая ж доля прададзенай прадукцыі закуплена дэцэнтралізавана работнікамі спажывецкай кааперацыі. Было заўважана, што дасягнута гэта ва ўмовах агульнага скарачэння выпуску тавараў народнага спажывання, калі вытворцы патрабуюць за іх папярэднюю аплату, калі ўласныя абаротныя сродкі спажыўкааперацыі штодзень абясцэньваюцца, а крэдытныя сродкі на закупку тавараў абмежаваны.

Можна назваць абсурднай сітуацыю, калі гандаль штодзень здае сваю выручку дзяржаве і вымушаны прасіць у той жа дзяржавы ці ў банкаў крэдыты пад высокія працэнты, а потым уключаць іх у выдаткі, накручваючы чарговы віток інфляцыі.

Аднак і выдзяляемых крэдытаў, як правіла, не хапае. Таму, зазначыў дакладчык, абласному кіраўніцтву варта разабрацца, чаму забяспечанасць тавараабароту крэдытнымі рэсурсамі сталічнай вобласці складае толькі крыху больш за 50 працэнтаў. У той час як па Брэсцкай — 80, па Віцебскай — 85, па Магілёўскай — 93 працэнты. Ды і па вобласці чамусьці, як кажуць, бог няроўна дзеліць. Скажам, Клецкаму раёну выдзелена крэдытаў на 66 працэнтаў, Нясвіжскаму — на 77, Валожынскаму — на 85, а Барысаўскаму чамусьці толькі на 46 працэнтаў аб'ёму тавараабароту.

Пасля замены кіраўніцтва аптовай гандлёвай базы, якая з'яўляецца важным звяном у сістэме райспажыўсаюза, яе работа прыкметна палепшылася. За першае паўгоддзе тавараабарачэнне ў параўнанні з леташнім перыядам скарочана больш чым на 30 працэнтаў, узрасла рэнтабельнасць, а прыбытак павялічыўся больш чым у 16 разоў. Год назад на базе пачаў працаваць швейны цэх, дзе выпускаюцца вырабы 24 назваў. Яны прадаюцца па больш нізкіх цэнах і карыстаюцца попытам у насельніцтва.

Цяжкі час перажываюць сёння прадпрыемствы грамадскага харчавання. Рост цэн на прадукты, павелічэнне расходаў на камунальныя паслугі, транспарт, электраэнергію прыводзяць да павышэння кошту страў, кулінарных і кандытарскіх вырабаў. Менавіта па гэтай прычыне ў апошні час зменшылася колькасць наведвальнікаў сталовых, кафэ, кулінарый. Да таго ж, на працягу двух апошніх гадоў гаспадаркі запатрабавалі вярнуць ім 11 сталовых, магазін з аддзелам "Кулінарыя" і кафетэрый, якія працавалі рэнтабельна. І ў такіх няпростых умовах работнікі прадпрыемстваў грамадскага харчавання здолелі ў параўнанні з леташнім павялічыць тавараабарот больш чым у 17 разоў, а выпуск уласнай прадукцыі — амаль у 20 разоў, перакрыўшы сярэднеабласны паказчык.

Добрых слоў заслугоўвае кіраўніцтва райспажыўсаюза за пастаянны клопат аб умацаванні матэрыяльнай базы галіны. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, за кошт прыбытку пашыраецца сетка гандлёвых кропак. Толькі сёлета на новае будаўніцтва зрасходавана 46 мільёнаў рублёў, яшчэ 10 мільёнаў пайшло на капітальны рамонт магазінаў. За апошнія два гады ўведзены ў эксплуатацыю гандлёвы цэнтр і некалькі тыпавых магазінаў, за што вяскоўцы ўдзячныя кіраўніцтву спажыўкааперацыі. Аднак яны жадаюць бачыць не паўпустыя паліцы магазінаў, а неабходныя ім тавары паўсядзённага попыту. Ды і работу спажывецкай кааперацыі вяскоўцы ацэньваюць не па лічбах справаздач, а па прылаўках магазінаў.

Дарэчы, і сам старшыня праўлення райспажыўсаюза І.У.Сліжэўскі адзначыў, што гандлёвае абслугоўванне насельніцтва раёна працягвае пагаршацца. Сёлета рознічны тавараабарот у супастаўных цэнах, зазначыў Іван Уладзіміравіч, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года скараціўся напалавіну. Асноўнымі прычынамі такога становішча ён лічыць дэфіцыт мыла гаспадарчага і пральных парашкоў, алею, мукі, круп, макаронаў, рабочага абутку, бялізны і іншых тавараў, скарачэнне цэнтралізаваных паставак, а таксама адсутнасць у насельніцтва грошай на іх набыццё. А вось дэпутаты, якія выступалі на сесіі, папракалі работнікаў гандлю за неразваротлівасць.

— Трэба не апраўдвацца адсутнасцю тавараў, а шукаць іх, — раіў старшыня праўлення калгаса "Боркі" В.І.Сакавец. — Мы ж шукаем і знаходзім спецадзенне для сваіх калгаснікаў, а ў райспажыўсаюзе для гэтага ёсць нямала кваліфікаваных спецыялістаў. Калі я днямі завітаў у Янчынскі магазін, то там у продажы былі толькі хлеб, каўбаса ды гарэлка. А вяскоўцам жа патрэбны і боты, і бялізна, і фуфайка. Замок можна ўбачыць хіба толькі на дзвярах магазіна, калі ён зачынены.

У сітуацыі хранічнага недахопу грашовых сродкаў кіраўніцтву райспажыўсаюза і спажывецкіх таварыстваў варта было б больш увагі ўдзяляць праблеме першачарговага набыцця тавараў, жыццёва неабходных людзям. Аднак, як адзначалася на сесіі, гэта не заўсёды рабілася ў інтарэсах пакупнікоў. Так, за першае паўгоддзе насельніцтву раёна рэалізавана менш, чым летась, абутку, швейных вырабаў, халадзільнікаў, тэлевізараў, пральных машын, мыйных сродкаў. Значна менш за устаноўленыя нормы спажывання набылі вяскоўцы мясных і малочных прадуктаў, цукру, макаронных і кулінарных вырабаў. І ў той жа час не забяспечана выбарка рэсурсаў па 30 групах тавараў, у ліку якіх цэльнальнамалочная прадукцыя, мыла гаспадарчае і гумавы абутак, які так патрэбен жыхарам вёсак. Затое рэалізацыя спіртных напіткаў сёлета за паўгоддзе ўдвая перавысіла аб'ёмы іх продажу за ўвесь 1988 год.

"Адсутнасць у продажы прамысловых тавараў паўсядзённага попыту паказвае, што спецыялісты райспажыўсаюза часта праяўляюць некампетэнтнасць у здзелках, у падборы тавару", — адзначалася ў дакладзе. Многія здзелкі заключаюцца спажывецкімі таварыствамі напраму з пастаўшчыкамі тавараў, мінаючы базу, для атрымання найбольшага фінансавага прыбытку. Але не заўсёды ў інтарэсах вяскоўцаў. Мелі месца выпадкі, калі нават за наяўныя грошы ў камерцыйных структур закупляліся спіртныя напіткі, шакалад, жавальная гумка. Заставаліся ж неаплачаныя плацежкі на закупку дзіцячай бялізны і абутку для насельніцтва раёна.

Справядліва крытыкавалася на сесіі работа каапнарыхтпрома, які не выкарыстоўвае наяўныя магчымасці і рэзервы для папаўнення сыравінных рэсурсаў. За восем месяцаў з 18 відаў нарыхтовак заданне выканана толькі па 4 пазіцыях. Знізіў вытворчасць прадукцыі і ўласны каўбасны цэх.

На няўзгодненасць дзеянняў работнікаў спажыўкааперацыі з мясцовымі органамі ўлады наракаў старшыня Мсціжскага сельсавета П.В.Гораў, які прывёў такі прыклад. У вёсцы Гаравец каля месяца назад зачынілі на рамонт магазін, нават не папярэдзіўшы загадзя ні вяскоўцаў, ні мясцовую ўладу. А аўтакрама пачала завозіць тавары першай неабходнасці толькі праз паўтара тыдня.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВУ — БЫЦЬ!

Падставай для шчырай і сумленнай размовы Прэзідэнта з прадпрымальнікамі рэспублікі стала 4-я асамблея дзелавых колаў Беларусі, якая адбылася 17 верасня ў Мінску.

У дакладах кіраўнікоў прадпрымальніцкіх саюзаў і аб"яднанняў былі выкладзены праблемы, якія перашкаджаюць камерцыйным структурам укладваць свае капіталы ў эканоміку рэспублікі. І першымі тут сталі пытанні бюджэтна-падатковай палітыкі і штучнага абмежавання наяўнасці. Прадпрымальнікі, спасылаючыся на больш выгаднае падаткаабкладанне ў Расіі, дзе ў бюджэт адлічваецца 35 працэнтаў, а не 65, як у Беларусі, запатрабавалі ад урада выраўняць гэтыя паказчыкі. Асобным пунктам былі пытанні фінансава-інвестыцыйнай палітыкі. Аляксандр Яловік, прэзідэнт Беларускай гільдыі брокераў, паведаміў, што інвестыцыі пойдуць, калі будуць дзяржаўныя гарантыі, а іх пакуль што няма. Таму не дзіўна, што, паводле звестак Нацбанка, паўтара мільярда, а, паводле ацэнак польскіх экспертаў, чатыры мільярды долараў па-ранейшаму застаюцца на руках у насельніцтва, і гэтыя капіталы выключаны з работы. Сваё слова сказаў і прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. Разважаючы аб стратэгіі малога і сярэдняга бізнесу, ён паведаміў, што неабходна ўключэнне бізнесу ў падрыхтоўку ўрадавых праграм. Ставілася таксама пытанне сацыяльнага партнёрства і прыняцця бізнесменамі актыўнага ўдзелу ў заканатворчасці. Для гэтага, на думку прамоўцаў, неабходна стварэнне партыі і актыўнае вылучэнне ў будучы Вярхоўны Савет сваіх кандыдатаў.

Выслухаўшы патрабаванні і прапановы прадстаўнікоў дзелавых колаў, слова ўзяў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. Ён падкрэсліў, што прадпрымальнікі, без сумнення, з"яўляюцца сёння ўплывовай сілай у грамадстве, і не заўважаць гэтага немагчыма. Таму, нягледзячы на яго складаныя адносіны з кіраўніцтвам прадпрымальніцкіх аб"яднанняў і саюзаў, а таксама парады ўстрымацца ад удзелу ў асамблеі, Прэзідэнт усё-такі вырашыў прысутнічаць тут. «Я прыйшоў сустрэцца не з вашым кіраўніцтвам, а з людзьмі, таму што тут сабраліся лепшыя розумы і генафонд нацыі», — сказаў ён. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што прадпрымальніцтва павінна стаць сярэднім класам, апорай грамадства і асновай для грамадзянскай згоды.

Праблемы, перад якімі стаіць рэспубліка, на думку Лукашэнкі, заключаюцца ў тым, як захаваць самастойнасць дзяржавы ва ўмовах поўнай эканамічнай залежнасці ад Расіі, як адысці ад мяжы, за якой — банкруцтва, беспрацоўе, сацыяльная беднасць і крыміналізацыя грамадства. І апошняя — дасканаласць дзяржаўнай сістэмы кіравання. Пры вырашэнні гэтых пытанняў Прэзідэнт не мае намеру адыходзіць ад курсу сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. «Не паварочваючы назад, а гэта проста немагчыма, мы павінны весці рэформы максімальна бяспечна з сацыяльнага пункту гледжання, — падкрэсліў Аляксандр Рыгоравіч. — Для гэтага не павінна быць ніякага супрацьстаяння, бо логіка перадвыбарнай барацьбы сябе вычарпала. І спроба бізнесу стварыць дзяржаву ў дзяржаве ў Прэзідэнта падтрымкі не знойдзе!»

У сваёй прамове Прэзідэнт закрануў і балючыя для прадпрымальнікаў пытанні. Так, па палітыцы падаткаабкладання ён паведаміў, што падаткі трэба змяншаць, але пачынаць з выбіральнай падатковай падтрымкі прыярытэтных галін. Мерай, якая дапаможа знізіць інфляцыю, А.Лукашэнка бачыць прызнанне беларускага разліковага білета адзіным законным плацежным сродкам. І гэта будзе зроблена ўжо на сесіі. Стала вядома, што з падачы Прэзідэнта павялічваюцца дысконтная працэнтная стаўка Нацбанка, працэнтныя крэдытныя і дэпазітныя стаўкі да ўзроўню, адэкватнага ўзроўню інфляцыі. Плануецца стварэнне за кошт прыбытку Нацбанка спецыяльнага фонду для льгатавання крэдытаў пад дзяржаўныя праграмы, выканаўцамі якіх могуць быць прадпрыемствы розных форм уласнасці.

«Прадпрымальніцтву — быць, — заявіў у заключэнне Аляксандр Лукашэнка. — Але без спекуляцыйнага адцення. Галоўны прыярытэт — сферы вытворчасці, а не пасрэдніцтву. Мы ўпарадкуем вашы дзеянні ў камерцыі і гандлі, створым роўныя ўмовы з дзяржаўным сектарам. Мне не важна, які выжыве гандаль — дзяржаўны ці прыватны. Галоўнае, каб народ сказаў »дзякуй" і выбраў мяне на другі тэрмін!"

*БЕЛІНФАРМ.*

## Хто затрымлівае паязды?

У спісе парушальнікаў графіка руху пасажырскіх паяздоў Беларускай чыгункі першае месца займаюць... мытнікі і пагранічнікі. Прааналізаваўшы работу за жнівень, супрацоўнікі пасажырскай службы засмуціліся. Аказалася, што на пагранічных станцыях была парушана работа 45 пасажырскіх паяздоў увогуле на 1.149 мінут. 36 з іх затрымалі пагранічнікі на 717 мінут. Зразумела, што менавіта гэтыя службы павінны спыняць правоз у вагонах любых кантрабандных грузаў. Але пры іх выяўленні трацiцца даволі шмат часу на разбор. А ў выніку Беларуская чыгунка нясе немалыя страты, якія ёй ніхто не кампенсуе.

У развітых дзяржавах такой праблемы няма. Таму што і мытнікі, і пагранічнікі строга рэгламентаваны ў сваіх дзеяннях спецыяльнымі нарматыўнымі дакументамі. Але ў Беларусі сёння такіх прававых актаў няма. Таму чыгуначнікі прапануюць збіраць плату за нанесены чыгунцы ўрон з саміх кантрабандыстаў. Толькі ў такім выпадку можна разлічваць на рытмічную работу пасажырскага транспарту.

*БЕЛІНФАРМ.*

**Сёння — апошні дзень падпіскі на**

**"Мінскую праўду"**

**на чацвёрты квартал.**

*Хто не паспеў аформіць яе, можна падпісацца на газету сталічнай вобласці на лістапад-снежань 1994 года.*



Служба 02

## УЧАСТКОВЫЙ

Трудна служба участкового инспектора. Быть в курсе всех дел в деревне, уметь если не предотвратить, то в максимально короткие сроки выйти на след и обезвредить преступника — это тоже искусство участкового, опыт, который приходит с годами при условии, если есть что-то в голове. Но и у участкового есть преимущество. Он свободно распоряжается своим временем. Поэтому, бывая во многих районах республики, часто приходилось убеждаться: думающий инспектор всегда найдет время и на работу, и на личную жизнь, и на хозяйство, и на охоту. Такой участковый, как правило, имеет в селе более-менее приличный дом, участок, живность. Он хорошо знает землю, следовательно, ему легче найти общий язык с сельчанами, которые отлично знают его и видят результаты его труда. К хорошему участковому человек всегда обратится за помощью и сам поможет ему чем сможет.

Таким я увидел старшего участкового инспектора Пуховичского РОВД майора Николая Николаевича Свиридова. Его участок — Тальковский сельский Совет. Места дачные. Много приезжих. В последнее время участились набеги на приусадебные участки горожан. Все это создает тревожную, напряженную обстановку на селе. Надо отметить, что Николай Николаевич хорошо знает людей, имеет надежных помощников, и поэтому о разбое, грабеже или попытке воровства ему сразу же становится известно. В доказательство приведу один эпизод. Однажды в августовскую ночь в квартире Свиридовых раздался телефонный звонок. Доброжелатель предупредил, что в один из сельских магазинов собираются "гости". Вместе с соседом они застали на месте происшествия двух молодых людей, которые уже собирались вылезать из разбитого магазина вместе с награбленным. Преступники получили по заслугам.

А вот другой пример. Ночью в конце мая водитель "Аудио-80" 24-летний А.Пронько вместе с другом на участке дороги Сетча—Узляны, где шоссе пересекалось с лесной тропинкой, сбили 33-летнего А.Сушенцова — рабочего кожзавода "Большевик". Остановившись и убедившись, что он мертв, забрали труп и, отъехав несколько километров, сбросили его в реку Свислочь. Вернувшись к себе в гараж, стали заменять разбитые фары и помятый кузов. Оперативная группа милиции, в составе который был и майор Н.Н.Свиридов, успела выйти на их след и застать за ремонтом машины. Преступники сознались в содеянном.

И все же Николай Николаевич, несмотря на довольно "тяжелый" район, находит время и для личного хозяйства. У него на зиму всегда есть в запасе своя морковь, огурцы, картофель, перец, помидоры и варенье из облепихи. Одним словом, хозяйственный мужик. Да и биография у него вобщем-то рядовая. Начинал со слесаря-модельщика на литейно-механическом заводе. После армии работал постовым милиционером, дежурным инспектором спецкомендатуры. А когда закончил среднюю школу милиции, стал участковым в Марьиной Горке, затем перевели в Тальковский сельский Совет. За последние годы успел закончить /заочно/ Высшую школу милиции /теперь академия/. Награжден медалью "За безупречную службу" третьей степени и знаком "За отличную службу в органах внутренних дел".

**На снимке: Н.Н.СВИРИДОВ** /четвертый слева/ беседует с сельскими жителями.

*Текст и фото Владислава БОСЬКО.*

## Ці адбудуцца выбары 18 лістапада 1994-га?

Выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі адбудуцца яшчэ сёлета, хутчэй за ўсё, яны будуць назначаны на 18 лістапада 1994 года. Да такога вываду прыйшлі спецыялісты сацыялагічнай лабараторыі "Экумена" Партыі падтрымкі СНД. Указаны тэрмін, тлумачаць яны, вынікае з шэрагу аўтарызаваных методык сацыяльна-храналагічнага аналізу развіцця грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы.

Спецыялісты "Экумены" таксама выказалі здагадку, што на палітычную сцэну выйдзе сталая, падспудна існуючая "партыя" Лукашэнкі, аб якой цяпер, можа, не здагадваецца і сам прэзідэнт. І ў лістападзе гэтага года будзе фактычна паўтораны поспех на выбарах Лукашэнкі да ўсеагульнай нездаволенасці палітычных сіл, якія называюць сябе дэмакратычнай апазіцыяй.

*БЕЛІНФАРМ.*

## "Экспрэс-сервіс": для старых — бясплатна

Колькі патрэбна сёння звычайных пенсій, каб запасціся на доўгую зіму палівам? А калі чалавек, да таго ж, стары ды адзінокі? Без надзейнага памагатага (ці, як цяпер гавораць, спонсара) абысціся няпроста. У яго ролі і прапанавала сябе прадпрыемства "Экспрэс-сервіс", што ў вёсцы Прусінава.

Кіруючыся спісам, які падрыхтаваў Нёманскі сельскі Савет, супрацоўнікі памянёнай фірмы на транспарце свайго прадпрыемства развозяць па дварах дровы, абрэзкі і шмат іншага некандыцыйнага лесаматэрыялу, прызначанага для адзінокіх састарэлых. Прычым робяць гэта бясплатна.

– А заняўся "Экспрэс-сервіс" такой вось дабрачыннасцю яшчэ летась, – паведаміла старшыня Нёманскага сельсавета Я.І.Майсюк. – Менавіта тады калектыў гэтага прадпрыемства (які ўзначальвае дырэктар І.І.Янковіч, а мясцовы цэх – У.І.Каробка) "прэзентаваў" шматдзетным сем'ям каля мільёна рублёў. На той час, пагадзіцеся, сума немалая.

Мо хто-небудзь з прадпрымальнікаў падтрымае ініцыятыву "Экспрэс-сервіса"?..

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ. Уздзенскі раён.*

■ Фотаінфармацыя



# КАРЫСТАЕЦЦА ПОПЫТАМ

*Старадарожскі механічны завод вытворчага аб"яднання “Калібр” — адно з тых прадпрыемстваў, якія не знізілі сёлета аб"ёмы вытворчасці прадукцыі. Дарэчы, яна карыстаецца вялікім попытам у спажыўцоў. А выпускаюць на прадпрыемстве карпусы пластмасавыя для малагабарытных тэлевізараў, чатыры віды масажных шчотак, закатачныя машынкі, метр складны, заціскачкі металічныя, шарніры-штангі для аўтамашын “Масквіч”.*

*Цяпер тут асвойваюць некалькі новых відаў прадукцыі, якія ў кастрычніку-лістападзе будуць выпускацца ў вялікім аб"ёме.*

*На здымках: брыгадзір ліцейшчыкаў Ганна СЯРГЕЕВА; слесары механазборачных работ Іван ТЭЖАР і Вячаслаў ЗМАЧЫНСКІ; зборачны канвеер; прадукцыя завода.*

Фота Анатоля БАСАВА.







■ Дзівакі

## КОШЫКІ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ. І ДЛЯ МУЗЕЯ

Яму споўнілася восемдзесят шэсць. На выгляд столькі не дасі. Хударлявы, сутулаваты, твар гладка паголены, з рэдзенькай сеткай маршчын. Вочы з жывінкай.

Юльян Андрэевіч Пятроўскі жыве ля вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. У інтэрнаце для адзінокіх і састарэлых. Пяты год дзядуля прапісаны тут. І ні дня не сядзеў без справы. Усё жыццё ён сябраваў з сякерай, долатам. Ад работы з гэблікам у Юльяна Андрэевіча нават вялікі палец на правай руцэ скасабочыўся.

Да яго, калі жыў у вёсцы Кавалі на Смаргоншчыне, ехалі з заказамі на сталярку за сто кіламетраў. Рабіў дзверы, альтанкі, веранды, колы для павозак. І ніхто ні разу не пакрыўдзіўся на якасць вырабаў. Жыццё ішло сваёй чаргою, пакуль не падкраліся старасць ды адзінота. Перажыў Юльян Андрэевіч ажно тры жонкі. Дзеці па свеце раз"ехаліся. Сын у Сібіры, дачка ў Мінску, у Акадэміі навук працуе. На іх ён не крыўдуе: не забываюць бацьку, але дажываць свой век вырашыў тут, на ўлонні прыроды, ля Нёмана.

Вядома ж, сталяркай у інтэрнаце не зоймешся, а кошыкі плесці можна. Набярэ ў лесе матэрыялу, сядзе пад альтанкай. І праз нейкія тры гадзіны кошык, беленькі, без адзінага вузельчыка, гатовы. Заказчыкаў хоць адбаўляй: ахвотна купляюць людзі вырабы Юльяна Андрэевіча. Да таго ж, паблізу пансіянат для ветэранаў вайны і працы, хапае прыхільнікаў грыбнога і ягаднага палявання. Вялікі кош каштуе тысячу рублёў. Малы, унукам у падарунак, — пяцьсот.

Перад ад"ездам з пансіяната і я заказаў майстру кошык — для ўнучкі. Атрымаўся такі прыгожы — ну хоць на выстаўку яго нясі. Дарэчы, пяць кошыкаў вырабіў Юльян Андрэевіч для музея Якуба Коласа, што паблізу ад Мікалаеўшчыны.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*Стаўбцоўскі раён.*

■ Народныя таленты

## ПРАДЗІВА ЧАРОЎНЫХ МЕЛОДЫЙ

УЗОРНЫ ансамбль песні і танца «Хажаўлянка» Маладзечанскага раёна ўжо тройчы выступаў на рэспубліканскім фестывалі юных талентаў «Сымон-музыка». А сёлета яму быў аказаны давер прадэманстраваць сваё майстэрства на адной з пляцовак Рэспубліканскага фестывалю "беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94". Чым выкліканы такі поспех? На гэтае і іншыя пытанні наш карэспандэнт папрасіў адказаць кіраўніка »Хажаўлянкі" **Я.А.ЧАБРОЎСКУЮ.**

— Я працую намеснікам дырэктара Хожаўскай сярэдняй школы па эстэтычнаму выхаванню. З 200 вучняў 60 актыўна займаюцца ў мастацкай самадзейнасці. Найбольш таленавітыя прыняты ў ансамбль песні і танца. Для некаторых такі занятак падказаў шлях пры выбары жыццёвай пуцявіны. Напрыклад, Валянцін Гурэцкі паступіў у Мінскае вучылішча мастацтваў на аддзяленне рэжысуры, а Людміла Нэнза ў гэтым жа вучылішчы займаецца на аддзяленні народных спеваў. Па-ранейшаму працягваюць удзельнічаць у школьным ансамблі. Сёлета мы былі на тыднёвых гастролях у Санкт-Пецярбургу.

— Нават прафесійныя калектывы з-за масавага збяднення не маюць магчымасцей зрабіць такую паездку.

— Мясцовы калгас імя Дзяржынскага аказаў нам фінансавую дапамогу. Справа ў тым, што яго старшыня Аляксандр Мар"янавіч Пагуда не толькі былы выпускнік нашай навучальнай установы, але і былы актыўны ўдзельнік школьнай мастацкай самадзейнасці. Цяпер нашаму духавому аркестру больш за 20 гадоў, Аляксандр Мар"янавіч адзін з першых яго ўдзельнікаў. На рэпетыцыі гэтага калектыву старшыня калгаса і цяпер нярэдка заглядвае. Любоў да духавой музыкі ён перадаў свайму сыну Юрыю, які зарэкамендаваў сябе добрым музыкантам.

Часта выступае на сцэне і дачушка кіраўніка гаспадаркі. У ансамблі песні і танца 30 чалавек. Кожнаму з іх хочацца адрасаваць самыя цёплыя і сардэчныя словы. Ні адной рэпетыцыі не прапусцілі Алеся Кісель, Таццяна Кучынская, Марына Шэмет, Іра Баннікава, салісты Іван Ільін і Аляксандр Радына.

Пры ансамблі створаны калектыў-спадарожнік «Верасок», удзельнікі якога праз год-два заменяць на сцэне сваіх старэйшых таварышаў.

— А цяпер, Яўгенія Аляксандраўна, крышачку пра сябе, бо не сакрэт, што даўгалецце самадзейных калектываў, іх майстэрства залежаць у асноўным ад таго, хто імі кіруе.

— Дзякуй за ўвагу да маёй персоны. Я — украінка. Закончыла Данецкае музычнае вучылішча, пазней — інстытут культуры ў Ташкенце. Дзесяць гадоў таму назад прыехала ў Маладзечанскі раён. І вельмі ганаруся, што кінула тут «якар». Беларускае нацыянальнае мастацтва для мяне — бальзам на душу. Таму і працуецца з поўнай аддачай.

*Уладзімір КОБРЫН.*

З залы суда

# УСЮ НОЧ ТРАШЧАЛІ ГАРАЖЫ

Для ўладальнікаў гаражнага кааператыва № 4, што размешчаны паблізу Слуцкага цукроварафінаднага камбіната, мінулагодні лістапад быў у поўным сэнсе слова «чорны». Яшчэ б! За кароткі тэрмін там было ўзламана ажно чатыры гаражы. Зладзеі ўганялі аўтамашыны, забіралі запчасткі да іх, бензін і ўсё астатняе...

Калі гартаеш крымінальную справу № 27353 /тоўсты том кілаграмы два вагой/, складваецца ўражанне, што ўладальнікі гаражоў або базлiўцы, або кожны быў перакананы, што ягоны гараж злодзей не ўзламае, а да суседскага інтарэсу няма. Мяркуйце самі. У верасні мінулага года, праламаўшы сценку гаража № 16, які належыць А.Уткіну, зладзеі ўганяюць аўтамашыну М-2140 коштам шэсць мільёнаў /па цэнах таго часу/ і забіраюць тысяч на сто пяцьдзесят розных каштоўнасцей, што захоўваліся ў гаражы. Праз два месяцы там жа, узламаўшы дах гаража № 20, які належыць Н.Камяку, налётчыкі забіраюць аўтамагнітолу, камплект свечак запальвання і іншыя аўтадэталі. На ўгнанай раней аўтамашыне едуць сярод ночы ў г.Клецк і са стаяўшага ў двары малакавоза ГАЗ-53 зліваюць пятнаццаць літраў бензіну. І вяртаюцца назад у Слуцк. Вось дык аператыўнасць! Гэта быў почырк мацёрых злачынцаў. Напэўна, клецкая вылазка здалася ім не зусім удалай, бо літаральна ў наступную ноч яны узломліваюць дах гаража № 22 у тым жа чацвёртым кааператыве і ўганяюць аўтамашыну М-2140, якая належала Н.Шыловічу, а заадно і запчасткі да яе, 85 літраў бензіну — усяго на суму 11,8 мільёна рублёў.

Здавалася б, цяпер самы раз уладальнікам «Жыгулёў» і «Масквічоў» з гаражнага кааператыва заварушыцца, забіць трывогу, стварыць на добраахвотных асновах групу самаахovы, а не спадзявацца толькі на следчыя органы, якім і без таго работы — па самую завязку. Але, на жаль, спрацаваў стары, як свет, прынцып: не высоўвацца, мне што — больш за іншых трэба?

І «начныя патрашыцелі» адчулі гэта. Таму ў ноч на 13 лістапада яны ўзломліваюць гараж № 19 В.Касцюка, уганяюць аўтамашыну ВАЗ-21063, а заадно прыхопліваюць 32 кілаграмы цукру, запчасткі да машыны — усяго на суму 17,3 мільёна рублёў. Дарэчы, пералік украдзенага толькі ў гэтым гаражы ў абвінаваўчым заключэнні заняў цэлую старонку машынапіснага тэксту!

Пасля серыі дзёрзкіх налётаў на гаражны кааператыў зладзеі, напэўна, зразумелі, што рана ці позна іх там усё роўна застукаюць. Таму пераключыліся на перыферыйныя, вясковыя гаражы. У ноч на 29 лістапада ў вёсцы Вясея, узламаўшы дах гаража мясцовага жыхара В.Пархімовіча, яны крадуць адтуль бензін, запчасткі да машыны — усяго на суму 165.660 рублёў. У тую ж ноч на ўкрадзеным «опель-сенатары» імчаць у Старыя Дарогі. Ля чыгуначнага пераезду здарылася затрымка — машына перастала заводзіцца. Зладзеі пакінулі яе, пайшлі ў горад і залезлі ў гараж С.Рудніцкага, выцягнулі гадзіннік «Кюры» коштам 169.600 рублёў. На большае не адважыліся ці, магчыма, штосьці перашкодзіла.

У адну з лістападаўскіх цёмных начэй у кар"еры паблізу вёскі Крывічы Салігорскага раёна «матарызаваныя зладзеі» спальваюць аўтамашыну, угнаную з гаража Н.Шыловіча. Хутчэй за ўсё, адчулі, што прадаць яе ўжо не змогуць — крымінальны вышук выходзіў на іх след, трэба было пазбаўляцца ад доказаў злачынства. І яны пайшлі на крайнасць, нанёсшы ўладальніку машыны ўрон на суму 11,3 мільёна рублёў.

Але колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. Патрашыцелі гаражоў былі затрыманы і арыштаваны. Аляксандр Шыркуноў, верхавод шайкі, 24 гады, раней судзімы за крадзяжы, нідзе не працуючы; Сяргей Біркас, 36 гадоў, газазваршчык Слуцкага РБУ-1, таксама раней судзімы, алкаголік; Вячаслаў Сіцько, 36 гадоў, нідзе не працуючы, раней судзімы; Анатоль Сіменчанка, 26 гадоў, нідзе не працуючы. Як высветлілася на судзе з іх асабістых паказанняў, усе яны любілі, каб бутэлька на стале была кожны дзень. Ды не адна. І свае начныя рэйды па гаражах рабілі добра падпіўшы, кожную ўдалую аперацыю абмывалі спіртным.

Суд прыгаварыў А.Шыркунова да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. В.Сіцько і С.Біркас атрымалі па два гады, а А.Сіменчанка — тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці кожны.

*Міхась АДАМАЎ.*

■ Концепция развития села

*(Продолжение. Начало в №№ 97, 98).*

## 3. ЛИЧНЫЕ ПОДСОБНЫЕ ХОЗЯЙСТВА

Анализировать эту форму хозяйствования на селе целесообразно с трех позиций: необходимости, возможности и эффективности использования.

Необходимость ЛПХ обуславливается сочетанием личных и общественных потребностей. Когда речь заходит об удовлетворении потребностей владельцев этих хозяйств и их семей в продуктах питания, за ЛПХ высказываются 100 процентов опрошенных. В них видят источник пополнения семейного денежного бюджета 73,6 процента, продовольственных ресурсов республики /посредством реализации продукции через потребкооперацию, госзакупки и колхозный рынок/ — 46,4, материальной помощи /продуктами и деньгами/ проживающим вне семьи родственникам — 40,9, развития товарного производства колхозов через закупки у населения молодняка скота, семян и т.д. — 31,9, формирования госбюджета в результате уплаты сельхозналога и госстрахования — 30, духовного, нравственного и физического развития детей — 23,6, сохранения жизненного ритма пенсионеров — 13,6, положительного влияния опыта ведения ЛПХ на трудовую деятельность сельских тружеников в общественном производстве — 5,5 и повышения занятости населения в трудоизбыточных хозяйствах — 4,5 процента.

О значимости ЛПХ в жизни сельских тружеников свидетельствуют их ответы на вопрос: "Если бы можно было купить в магазине, колхозе сельхозпродукты, то как бы вы поступили со своим хозяйством?" Большинство сельчан /67,2 процента/ ответили: "сохранили бы в прежнем виде", 25,5 — "сократили бы размер хозяйства", 2,7 — "отказались бы полностью" и 4,6 процента — не знают, затрудняются ответить.

45,5 процента жителей села указали: "нравится вести свое хозяйство, ведем с удовольствием", 32,7 — "нравится вести хозяйство, но трудно сочетать с основной работой", а 21,8 процента — "не хотели бы вести ЛПХ, но без него не обойтись". Значит, помимо материальной заинтересованности в ведении ЛПХ, у многих тружеников развит и моральный интерес, связанный с трудолюбием.

Трудно сочетать ведение ЛПХ с работой в общественном производстве (в основном специалистам хозяйств) из-за ненормированного рабочего дня и занятости в выходные. Прослеживается тенденция негативного отношения к ведению ЛПХ в более молодом возрасте, когда в еще большей степени проявляется необходимость иметь свободное время, и среди лиц старше 65 лет — в связи с физическим состоянием.

Возможности личных подсобных хозяйств в решении социально-экономических задач в обобщенном виде заключаются в следующем: данная форма хозяйствования имеет материально-техническую базу (жилые и хозяйственные постройки, хозинвентарь, скот, птицу, семена и т.д.), владельцы обладают опытом сельхозтруда, сложилась определенная система производственных отношений между ЛПХ — с одной стороны, колхозами, совхозами и потребкооперацией — с другой, помощь местных органов государственной власти.

Возьмем, к примеру, колхоз имени Орджоникидзе. Здесь имеется 918 личных подсобных хозяйств. Согласно данным сельского Совета, в них насчитывается 380 голов крупного рогатого скота /в т.ч. 320 коров/, 1.800 свиней и 120 овец. Почти в каждом подворье есть птица. До "перестройки" личные подсобные хозяйства производили около 30 процентов сельхозпродукции в БССР.

Эти и другие факты свидетельствуют о большом вкладе личных подсобных хозяйств в решение социально-экономических задач, об активной трудовой деятельности большинства их владельцев. В связи с этим никак нельзя согласиться с тем, что "крестьянин разучился работать", "крестьянин стал ленивым" и т.п., о чем в последние годы активно утверждают некоторые средства массовой информации.

О напряженном трудовом ритме владельцев ЛПХ свидетельствуют и данные об их бюджете времени. Работа в общественном производстве занимает, как и всюду, 8,2 часа. Домашний труд /уборка, стирка и т.д./ и самообслуживание требуют 2,4 часа, ведение ЛПХ — 3,9, передвижение к месту работы и обратно — 0,8, досуг, свободное время, общественная работа — 1,8, сон и еда — 6,9 часа.

Как видим, ни один социальный слой в нашем обществе не занимается таким напряженным трудом, как владельцы подворья на селе. Основная нагрузка по оказанию им помощи приходится на колхозы и совхозы. Вместе с тем возможности личных подсобных хозяйств используются далеко не полностью.

Вот как распределились ответы на вопрос: "Удовлетворены ли вы развитием ЛПХ?"

"Да, удовлетворены" — ответили 29,2 процента респондентов, "скорее да, чем нет" — 25,6, "скорее нет, чем да" — 14,5, "нет" — 6,5, не знают, затрудняются ответить — 10,9, не ответили — 13,3 процента опрошенных.

Значит, совсем или скорее не удовлетворен, чем удовлетворен развитием ЛПХ каждый пятый его владелец. Причины неудовлетворенности — низкая производительность труда, отсутствие возможности приобретения необходимой техники и сельхозинвентаря, чрезмерные нагрузки. ЛПХ мешает эффективному развитию общественного производства, сокращает свободное время, создает трудности для духовного роста. Сложно приобрести молодняк скота и птицы, сортовые семена, саженцы плодовых и ягодных культур, выращивать зерно, заготавливать сено, солому, комбикорма. Немало возникает вопросов с пастбищным содержанием скота, сбытом плодов и ягод, мяса, молока, картофеля и переработкой продукции, защитой растений от болезней и вредителей, своевременной ветеринарной помощью, строительством жилья и хозяйственных построек, их ремонтом, приобретением минеральных удобрений, топлива и т.д., и т.п.

На вопрос анкеты-интервью, есть ли резервы для развития ЛПХ, 68 процентов их владельцев ответили — "да", 29 — "исчерпаны" и 13 процентов — "затрудняюсь ответить". Каковы же направления, формы и методы более эффективного использования этих резервов?

Прежде всего, в условиях формирования новых рыночных отношений требуется высокая активность владельцев ЛПХ, членов их семей. Здесь и трудолюбие, и предприимчивость, и профессиональное мастерство с соответствующей экономической подготовкой, и организаторские способности. Это подтверждают и ответы на вопрос анкеты: "В какой мере в целом используются возможности ЛПХ для повышения их эффективности?" 22 процента опрошенных написали — "в полной", 44 — "скорее да, чем нет", 7,3 — "скорее нет, чем да", 9,2 — "нет", 17,5 — не знают, затрудняются ответить.

Повышение эффективности этой формы хозяйствования на селе требует активизации деятельности колхозов, совхозов, сельских и районных Советов, райпотребсоюзов, вышестоящих государственных и хозяйственных органов. Наблюдается тенденция снижения внимания к ним со стороны республиканского центра, средств массовой информации. Зато очень много словесного шума, особенно в законодательном органе, о крестьянских (фермерских) хозяйствах и частной собственности на землю.

Учитывая мнение сельчан, требуется развивать специализацию ЛПХ по договорам с колхозами, потребкооперацией, госторговлей, промышленными предприятиями и кооперативами. Как выяснилось в процессе интервьюирования, владельцы ЛПХ нуждаются в существенном повышении уровня их экономического образования. Научить тружеников села анализировать процесс своей работы (выявлять успехи, недостатки, их причины, ставить реальные задачи, решать их наиболее рациональными средствами и методами) призваны прежде всего специалисты колхозов и совхозов. В этом плане велика роль управлений сельского хозяйства и продовольствия исполкомов райсоветов. В их штате целесообразно иметь экономиста-исследователя. Одна из его задач — углубленное изучение трех-четырех типичных личных подсобных хозяйств, подробное описание (не менее двух раз в год) их работы с точным указанием всех данных, отражающих их функционирование, анализ и выработка соответствующих рекомендаций.

Организующим началом в решении этой проблемы, на наш взгляд, должны выступить исполкомы райсоветов совместно с РК профсоюза работников сельского хозяйства, определив задачи каждого звена в отдельности с учетом их возможностей. В каждом колхозе или сельском Совете целесообразно создать или воссоздать хозрасчетные бригады с набором сельскохозяйственных машин по оказанию помощи ЛПХ, особенно пенсионерам.

Совершенствуя материальные стимулы труда владельцев ЛПХ, нельзя забывать о моральных. Речь идет об организации конкурсов-выставок в масштабе колхоза, сельского Совета и района, занесение на Доску Почета, награждение грамотами и т.д. У трудового человека всегда будет в чести мастерство, гордость за качественный результат своего труда.

В каждом колхозе и совхозе целесообразно иметь годовые планы по становлению, развитию и функционированию личных подсобных хозяйств, в которых жизнь требует предусмотреть следующие разделы:

1. Обработка почв приусадебных участков и возделывание сельскохозяйственных культур.
2. Обеспечение семенами высокоурожайных сортов, саженцами плодовых культур и ягодников.
3. Уборка и хранение продукции: выделение техники и транспорта, тары и материалов, людей при необходимости.
4. Реализация продукции и переработка; заключение договоров по сбыту, формы закупок.
5. Продажа молодняка скота и птицы, замена малопродуктивного скота. Ветеринарная помощь.
6. Строительство и ремонт жилья и помещений для содержания скота, хранения кормов и продукции.
7. Обеспечение скота кормами и организация выпаса.
8. Организация учебы владельцев ЛПХ, в т.ч. обмена опытом по эффективному их использованию.
9. Формы материального и морального стимулирования.
10. Источники финансирования материально-технического обеспечения.
11. Совместные мероприятия с сельским Советом, потребкооперацией и райсоветом по повышению эффективности ЛПХ (оформляются соответствующими договорами).

В плане следует выделить отдельной графой помощь пенсионерам и одиноким колхозникам.

Для апробации считали бы возможным засчитывать определенное количество дней работы в ЛПХ, в зависимости от содержания скота и птицы, в годовой баланс времени отработанного сельчанами в общественном производстве, для начисления отпускных и пенсии.

Имеются трудности в переработке продукции ЛПХ для личного пользования. В этом плане основные орудия труда в домашних условиях — мясорубка и закаточные машинки. Из 110 опрошенных семей только 10 имеют сепараторы, 9 — соковыжималки и 1 — маслобойку. Нет возможности перерабатывать продукцию и в потребкооперации. Решению этой проблемы во многом способствовала бы организация кооператива, малого предприятия или цеха по переработке продукции в колхозе, совхозе или в сельском Совете.

Почти во всех ЛПХ имеются сады. Личные наблюдения показывают, что многие из них находятся в запущенном состоянии. Периодически не окультуриваются. Более того, для хранения собранных плодов /яблок и груш/ почти нет специально приспособленных помещений. Как правило, в нарушение научной технологии, они находятся в погребах вместе с картофелем, свеклой и т.д. Колхозы и совхозы в состоянии оказать соответствующую помощь.

Личные подсобные хозяйства /в форме пожизненного наследуемого или частного владения в размерах до 1 га земли с учетом площади земельного участка, имеющегося при доме/ с предоставлением земельных участков для сенокошения и выпаса скота — перспективная форма хозяйствования на селе. Ею желают заниматься 95 процентов сельчан. В частности, обеспечив потребности подворья по сносной цене комбикормами и молодняком, можно в течение года резко увеличить производство свинины.

*Антон ЮНЦЕВИЧ, сопредседатель Аграрной партии Республики Беларусь, депутат Столбцовского районного Совета, председатель колхоза “Красный Октябрь”;*

*Владимир ЛЫСЫЙ, председатель колхоза имени Орджоникидзе Смолевичского района, депутат Озерицкослободского сельского Совета;*

*Марьян РУБЕЛЬ, председатель колхоза “Новый свет” Копыльского района, кандидат экономических наук;*

*Иван ГАЛКО, доктор философских наук, профессор.*

**P.S.** Гонорар оставляем на нужды редакции.

*(Продолжение в следующем номере).*

